Цана 200.000 м. п.

# НАШАЕ ЗМАГАНЬНЕ

АДНАДНЁЎКА.

Вільня, Нядзеля, 3-га лютага 1924 г.

## Грамадзкая самадзейнасьць.

У меру таго, як адбываецца рост і ўзмацоўваньне беларускае нацыянальнае сьвядомасьці ў шырокіх масах беларускага працоўнага народу, — узрастае ў нас і грамадзкая самадзейнасьць у-ва ўсіх тых справах, у якіх мы акказаліся абойдзенымі польскай дзяржавай.

Апрача пары дзесяткоў пачаткавых школ, якія ўтрымлівае дзяржава, мы бачым, што ўсе беларускія сярэднія школы ўтрымліваюцца выключна грамадзкімі сіламі, згуртаванымі ў таварыствах „Беларускае Школы“.

Прытулкі для дзяцей беларускае беднаты і сірот утрымліваюцца таксама коштам беларускага грамадзянства. Тая дзяржаўная падмога, якую атрымлівае, прыкладам, віленскі прытулак,—гэта адна насьмешка. Дзеці жывуць бадай выключна тым жытам, мукой, салам і т. п., што зьбіраюцца сярод нашага сялянства на вёсках, ды йшчэ дапамогай з-за акіяну—ад тых-жа беларускіх вяскоўцаў, выэміграваўшых у Амэрыку і цяпер адгукнуўшыхся на нядолю старое Бацькаўшчыны.

Далей, прэса беларуская,— аб тым, чым яна жыве і за што істнуе, сьведчаць сьпісы ахвяр, якія стала друкуюцца ў нашай часопісі, а такжа ў „Krynicy“, ды тыя ахвяры, што складаюць так ахвотна сяляне па пасольскіх мітынгах.

А кніжка? Кожнаму вядома, як цяжка цяпер выдаць беларускую кніжку. Збыт яе ў Заходняй Беларусі вельмі абмяжованы, усходні-ж рынак зачынены гранічнымі кардонамі. І ўсё-ж такі кожын месяц на кнігарняных полках зьяўляюцца новых выданьні—ізноў-жа дзякуючы ахвярнасьці нашага грамадзянства, згуртаванага пераважна каля „Беларускага Выдавецкага Т-ва“.

Але ўсё гэта даецца дужа цяжка. Кожны мілён марак—гэта частка заробку, якога і так ледзьве хапае на пражыцьцё беларускаму культурнаму работніку ці грамадзкаму дзеячу.

Патрэба эканамічнае самаарганізацыі на такіх асновах, на якіх утвораныя установы маглі-бы жыць і разьвівацца, не вымагаючы ўсьцяж дапамогі збоку, адчуваецца ўжо даўно. І вось мы бачым цікавы рух, які разьвіваецца сярод беларускага грамадзянства: гэта—рух, што мае на мэце абаперці беларускую культурную і эканамічную работу на *кааперацыі*.

Група беларускіх ксяндзоў купіла друкарскую машыну. Гэтымі днямі закладаецца беларускае кааператыўнае выдавецтва „Праца“, якое мае на думцы стварыць сваю друкарню. А надовечы аднавіла сваю карысную дзейнасьць „Драматычная Майстроўня“, якая ў аснову сваей арганізацыі паклала таксама кааператыўны прынцып.

Гэты новы кірунак у нашай грамадзкай працы трэба вельмі шчыра прывітаць — ня толькі з прычыны спадзяваных практычных вынікаў такое пастаноўкі справы, але і з прычыны таго, што ён сьведчыць аб ўсё больш і больш пашыраючайся нацыянальнай і грамадзкай сьвядомасьці сярод беларускага насяленьня ў межах Польшчы. Перагледзьце сьпісы сябраў усіх старых—яшчэ ў большасьці перадваенных беларускіх таварыстваў, і вы ўсюды ўбачыце бадай тыя самыя прозьвішчы, тых-жа людзей. Цяпер—у гэтых кааператывах—гуртуюцца ўжо зусім новыя людзі, вырабляюцца і ўзгадоўваюцца новыя сілы, якія павінны будуць замяніць старое пакаленьне пачынальнікаў адраджэнскага руху, з кожным годам перадчасна выміраючае ад цяжкіх варункаў жыцьця і працы. І паскольку сярод гэных першых нашых грамадзкіх дзеячоў пераважае тып ідэалістаў, часта нездольных, няўмеючых пусьціць у ход кулак там, дзе словам і перакананьнем нельга зламаць перашкодаў,—пастольку цяпер пачынаюць узгадоўвацца працаўнікі, больш адпавядаючыя вымогам сучаснае барацьбы беларусаў за свой нацыянальны быт, дзеячы позытывісты, больш проста ўглядаючыяся на свае задачы — моʻвузкія, моʻ абыймаючыя толькі малую частку вялікае Беларускае Справы, але затое больш практычныя ў зьдзейсьненьні распачатае работы. І тое, што некалі павінны былі рабіць нячысьленыя, але запраўды універсальныя правадыры руху, цяпер робіцца пры ўчасьці ўсё шырэйшых кругоў грамадзянства на аснове *падзелу працы і спэцыялізацыі*.

А ў гэтым—залог далейшага росту і трываласьці нашага адраджэнскага руху.

## Ці толькі—„без кравату“??.

(Хаўтуры дэмакратызму).

Для нас, прадстаўнікоў гэтых меншасьцяў у-ва ўсей гэтай вітасавай праграме „санацыі“ Польшчы перадусім важна тое, што Канстытуцыя 17 сакавіка *перестане* ўжо больш уводзіць у заблуданьне як унутры краю, таксама і заграніцай публічную апінію, а „зашмат лібэральны“ выбарны закон—правакаваць нашыя народныя масы, як мышалоўка мышаў...

Хай ужо Польшча мае адвагу *юрыдычна называцца* тым, чым яна зьяўляецца *фактычна*...

Хай ужо ўсе ведаюць, што само польскае грамадзянства пераканалася ў тым, што сучасная Польшча, у сваім цяперашнім складзе, пры сваей сучаснай палітыцы можа істнаваць толькі як „Манархізаваная Прэзыдэнтура“, *скасаваўшы* ўсе тыя *галоўныя падставы дэмакратызму*, якія яна абвесьціла ў сваей першай, зусім *нерэальнай* Канстытуцыі..., але *ня можа істнаваць запраўды, як Дэмакратычная Рэспубліка*...

Хай ведаюць усюдых, што тая Польшча, што створана пераможцамі ў Вялікай вайне, можа істнаваць толькі *на уціску і пагвалчаньні* правоў—волі і роўнасьці — тых самых беларусаў і ўкраінцаў, якія таксама *пралівалі кроў* дзеля гэтай перамогі, а значыцца *і для стварэньня Польшчы*..., што яна — можа істнаваць толькі на падставе *прынцыповай адмовы* ад тых умоваў і варункаў, якія былі пастаўлены яе вэрсальскімі творцамі, як прынцыповыя, — для стварэньня яе, як вялікай незалежнай дзяржавы...

---

Для нас беларусаў ува ўсіх гэтых вітасавых плянах „палітычнай санацыі“ перадусім важна тое, што яна мае адбыцца галоўным чынам *коштам нашых правоў, нашай волі і роўнасьці* ў Польскім Гаспадарстве...

Крыўдзячы нас і без таго цяперашні выбарны закон, створаны ў устаноўчым Сойме тым самым, але яшчэ ня так добра зьнюхаўшымся Хьена-Пястам, мае быць „палепшаны“ ў бок далейшай крыўды...

Які-ж вывад з гэтага павінен зрабіць беларускі народ, хай аб гэтым падумаюць тыя, хто возьмецца за гэтую „санацыю“... Якія могуць здарыцца практычныя вынікі гэтага вываду, таксама трэба-ж нарэшце ўцяміць гэтым кіраўніком такой вялікай і добрай, але толькі, на жаль, неяк надта нялоўка геаграфічна зьмешчанай дзяржавы...

Спрабуем неяк пакінуць думку аб гэтым тым, хто мае „ратаваць польскі парлямэнтарызм“, паводле рацэпту п. Вітаса.

Пасол Тарашкевіч нядаўна казаў з соймавай трыбуны, што з розных прычынаў няпольскае насяленьне Польшчы,—а перадусім беларусы і ўкраінцы—, якое складае толькі трэцюю частку агульнага ліку яе жыхароў, *дае ў сучасны мамэнт арміі Польскай Рэспублікі 60°/₀ яе агульнага складу*...

Мы ня будзем тутака разводзіць аб дэмакратычнай справядлівасьці ці несправядлівасьці гэтай „прапорцыі“, аб ахвярах, ці якіх правох на асаблівую ўдзячнасьць за гэта з боку таго „прыроджанага гаспадара Польшчы“, якога, як відаць, „заваяваныя“ беларусы і іншыя меншасьці напалову заступаюць у яго сьвятым абавязку бараніць сваю „ўкаханую айчызну“...

Мы зьвернем увагу на нешта іншае...

Ведама, кожны кіруючы гаспадарствам рэальны палітык павінен лічыцца з існаваньнем сярод насяленьня апошняй ня толькі грамадзянаў добрай волі, але, на жаль, у нашыя часы нават шмат вялікшага ліку грамадзянаў—калі ня злой, дык, так сказаць, няпэўнай волі...

Разумны дзяржаўнік ніколі не скажа, як гэта заявіў улетку з вышыні прэмʻерскага крэсла п. Вітас, быццам Польшча будзе мацней, калі для яе будзе зусім *„усе роўна,* злая ці добрая воля кіруе яе меншасьцямі“,—цэлай трацінай яе насяленьня...

Можа нават п. Вітасу калісь зробіцца зразумелым, што ня можа ніводны ўрад казаць так, як ён казаў, прынамсі адначасна ўліваючы ў сваю армію аж тры пятых яе складу—з гэтых самых меншасьцяў, і ня дбаючы зусім аб тым, каб іх воля рабілася-б якраз добрай, а ня злой...

Бо кожны зразумее, што нават ігнаруючы гэтую „добрую ці злую волю“ цэлай траціны грамадзянаў дзяржавы ў *мірныя* часы, таксама ігнараваць магчымасьць *азлобленай волі* ў большай палове—бо аж трох пятых! — сваей арміі ў *часе вайны* зусім ня можна дзяржаўнаму дзеячу, які можа не насіць кравата, але галаву павінен мець на месцы...

---

Да ўсяго сказаннага трэба дадаць яшчэ колькі слоў...

У сваім „абсалютна сакрэтным“, (які амаль ня назаўтра ўжо абляцеў увесь сьвет...), дакладзе, які маршал Францыі і Польшчы ген. Фош пасьля павароту з Польшчы зрабіў французкаму ўраду, гэты амаль ня геніяльны ваенны фаховец, найлепей разумеючы *чыста ваенную вартасьць запраўднага дэмакратызму, падкрэсьліў якраз тую самую небясьпеку ў польскай арміі*, аб якой толькі што казалі мы...

Ген. Фош вельмі рэзка, як у свой час пісалі газэты, заявіў, што гэтая небясьпека існаваньня ў польскай арміі нават трэцяй часткі „ненавідзячых Польшчу інародцаў“,—ня кажучы ўжо аб трох пятых яе!..— робіць гэтую магутную здавалася-б сілу Польшчы ў некалькі разоў менш рэальнай...

Як кожнаму зразумела, такая справаздача першага прафэсыянала вайны ў Эўропе не магла не зрабіць вельмі моцнага ўражаньня ўва Францыі, і ёсьць падставы думаць, што якраз гэты даклад ген. Фоша быў тэй апошняй кропляй, якая, можа, і пахнула французскі ўрад шукаць новых падпорак, новых палітычных шляхоў і камбінацыяў, стварыла—міма Польшчы—чэска-французскі саюз, як мост да Радавай Расеі і г. д.

Але гэтай першараднай вартасьці дэмакратызму ў арміі дзяржавы, якая *ня толькі „любіць“*, але і *павінна* быць—для свайго самазахаваньня—перадусім

Цяпер і з фінансавага боку няма ўжо перашкод дзеля спаўненьня хаця гэтага аднаго беларускага дамаганьня, прадугледжанага канстытуцыяй.

Цікава, ці доўга йшчэ Сойм будзе дзяржаць гэту справу „пад сукном“?..

## Весткі з вёскі.

**М. Куранец, Вялейскага пав.**

На Каляды 14 і 15 студзеня г. г. вучнямі Радашкаўскай Беларускай Гімназіі на чале з вучыцялем тэй-жа гімназіі Гаўрылікам былі наладжаны два спэктаклі на карысьць незаможных вучняў. У спэктаклях прымала таксама выдатнае ўчасьце вучаніца Вялейскае Гімназіі Вера Каллаур. У першы вечар былі пастаўлены „Цені“ і „Зьбянтэжаны Саўка“, у другі—„Птушка шчасьця“ і „Боты“. Гэтыя, бадай, першыя беларускія спэктаклі ў Куранцы, дужа спадабаліся сабранай публіцы, сярод якой было ня мала сялян з акалічных вёсак. У часе спэктакляў і скокаў і пасьля іх добра іграла мясцовая музыка ў складзе скрыпкі, цымбалаў і гармонікі. Усе п‘есы згуляны былі добра. Трэба сказаць шчырае дзякуй арганізатару спэктаклаў п. Я. Гаўрыліку і яго памоцнікам Баз. Малашэвічу, Яз. Нямiровічу і выканаўцам яго: Ганне Гаўрылік, Веры Каллаур, Мікалаю Абрамчыку, Язэпу Багданскаму і Янку Доўнару, якія палажылі шмат працы і энэргіі паехаўшы ў далёкую дарогу, збудаваўшы занова сцэну і здолеўшы добрым выкананьнем выдатных сцэнічных твораў зацікавіць мясцовую люднасьць беларускай мастацкай творчасьцяй.

**Глядзельнік.**

# Дописы.

## Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

**Прывітаньне ад праф. Б. Эпімах-Шыпілы.**

Стары беларускі прафэсар і дзеяч адраджэньня, пад бацькаўскай апекай якога ўзгадаваліся лепшыя дзеячы сучаснага беларускага руху і беларускага пісьменьніцтва,—Б. Эпімах-Шыпіла прыслаў амэрыканскім беларусам прывітаньне і сэрдэчнае пажаданьне пасьпеху ў самаарганізацыі на дабро беларускага народу.

**Беларусы ў Сан-Францiска.**

Атрыманы лісты з далёкага Сан-Францiска (з заходняга берагу Паўночнай Амэрыкі), што там заварушыліся беларусы, прыбыўшыя з Японіі і Сібіры.

## Нашае студэнцтва у эміграцыі.

**„Перавясла“**

*часопісь беларускага паступовага студэнцтва.*

Перад намі ў прыгожай вокладцы першы нумар выпушчанай на правох рукапісу часопісі беларускага паступовага студэнцтва ў Празе (Чэхаславакія) за лістапад—сьнежань мінулага году.

У сшытку 64 странічкі, адбітыя з тэксту пісальнае машыны на шапіраграфе.

Мова ўсіх аўтараў, ня ў прыклад гэткай часопісі пражаскіх беларускіх студэнтаў (але мусі ўжо не паступовых?), як „Беларускі Студэнт“, — усюды зразумелая, што дае доступ да чытаньня часопісі ня толькі... студэнтам.

Прыемна даведацца, што маладыя родныя сілы за граніцаю здабыліся на гэткую энэргію, якая дала ім магчымасьць заклáсьці, якое мага, сваё друкованае слова.

Дзівам нейкім выглядаюць няўдачныя спробы тутэйшага віленскага беларускага студэнцтва неаднакроць зьбіцца на свой пэрыядычны орган.

Ці-ж на Бацькаўшчыне цяжэй мець кроплю вольнага часу дзеля яе ўласнае культуры?

Аля пяройдзем да самога „Перавясла“.

Часопісь пачынаецца вершам Л. Родз—іча—„Начны сьветагляд“. У вершы тры разьдзелы. Верш праняты ваяўнічым духам:

„Агнём свае помсты
Мы цемру запалім,
Тугу, безнадзейнасьць,
Разьвеем, расплавім!?...

Рыфмоўка вершу тугая ўсюды, падобная да гэтага—„запалім—расплавім“.

Яшчэ слабей у трэцім разьдзеле, дзе чытаем:

„Настане час і рэха творчай, спорнай працы
Акордамі атуліць зямлю-мацъ.
І задрыжыць зямля ў захопленьні юначым!
Аркестр касьмічны годзі хвальшаваць“.

Ня кажучы ўжо аб сьмелай рыфмоўцы „працы“ з „юначым“, мусім заклеймiць гэткую „большяраслаўскую“ форму слова маці.

Далей лёганькі вершык І. Дварчаніна „Вечнасьць“, за ім таксама верш В. Русака „Дзе праўда?“.

Малым восемрадковым вершыкам Ул. Ж. „Прадчуцьцё“ аддзел вершаў у часопісі замыкаецца.

Проза прадстаўлена апавяданьнем Курыуса „Сернік“. Апавяданьне—так сабе, проба пяра.

Далей хоць коратка, але моцна зложана публіцыстычная заметка У. Ж. „У справе ацэнкі беларускага адраджэньня“.

Аўтар гэтай заметкі робіць даволі ўдачныя, ў часьці сваёй вывады, замкнёныя ў тры пункты:

1) „Нацыянальна-вызвольнае змаганьне ня можна адасобіць ад сацыяльна-эканамічнага і клясавага;

2) Беларускі рух ёсьць вынікам адраджэньня сялянства;

3) Буржуазныя і шляхоцкія групы ў істоце варожыя беларускай нацыянальнай стыхіі“.

Т—ш ў артыкуле „Мэты й заданьні“ кажа:

...„кожны беларускі студэнт мае паставіць сваім заданьнем: узапраўды стаць асьвечаным чалавекам, узапраўды навучацца ўсім тым спосабам змаганьня за лепшы дабрабыт і сьветлую долю працоўных грамад, якія ўжываліся ў мінуўшчыне і ўжываюцца ў сучаснасьці народамі Эўропы“.

З гэткага вываду аўтара відаць, што паступовасьць „перавяслаўскага“ студэнцтва зьяўляецца далёка шчырэйшаю і перадавейшаю, чымся нашага віленскага студэнства (альбо група „Беларускі Студэнт“ у Празе), у часопісях якога мы падобных нотак ня чулі.

Ужо гэткая сьмелая паступовасьць „перавяслаўцаў“ сьведчыць аб іх большай жыцьцяздольнасьці і шырэйшым сьветаглядзе.

Гісторыя „Аб‘яднаньня беларускага паступовага студэнства“ апісана на старонках „Перавясла“ нейкім І. Н.

Credo арганізацыі ўкладаецца ў трох пунктах:

1) Беларускае адраджэньне — вынік выступу на арэну грамадзкага жыцьця беларускіх сялян і работнікаў на шляху вызваленьня іх ад сацыяльнага й нацыянальнага прыгнечаньня.

2) „мы—дзеці сялян і работнікаў, нам дорагі інтарэсы іх, і мы за іх будзем змагацца“ (бароцца).

3) Ідэал сьвядомых работнікаў і сялян ёсьць незалежнасьць Беларусі і гэта зьяўляецца найвышэйшым ідэалам і для нас. І для народу, як клясы працоўных, гэта першы найважнейшы ідэал, каб увайсьці ў сусьветную сям‘ю працоўных, як роўны з роўнымі. Але гэта Беларусь не паноў, а працоўных: сялян і работнікаў.

„Гэта тры пункты,—дадае аўтар,—якія прызнаны, як аксіома далейшай працы над самім сабою і рамка для навуковых досьледаў у розных галінах веды“.

Для большага выпукленьня ідэі „перавяслаўцаў“ скажам словамі, якімі аўтар закончыў свой артыкул:

„Сьмеем надзеяцца, што кадр аб‘яднанага Беларускага Паступовага Студэнцтва ўнясе сьвежы струмень у пачынаючы як-бы прыціхаць магутны ўзрост рэвалюцыйных імкненьняў роднага народу“.

Нейкім В. Г. ахарактарызована „Беларускае студэнцтва і яго найбліжэйшыя патрэбы“ ў артыкуле гэтага назову.

У канцы гэтага артыкулу чытаем:

„І так кожны студэнт—беларус, калі ён ня думае стацца толькі інтэлігентам, але й працаўніком у адраджэньні Беларускага народу, калі ён шчыра хоча працаваць разам з працоўнымі масамі, часткаю якіх ён сябе лічыць, дзеля палепшаньня агульнага дабрабыту, а ня стацца сябрам вышэйшае клясы, выкарыстоўваючае гэтыя масы, мусіць быць прыгатаваны да гэтае працы, мусіць быць азнаёмлены з усімі галінамі жыцьця культурных народаў і пасьля мусіць улажыць усе свае здольнасьці і пазнаньні ў агульнае народнае дабро“.

Сэрца кожнага барацьбіста за агульначалавечыя ідэалы й ідэалы свайго працоўнага народу, ў сучасны момэнт нашае нацыянальнае трагэдыі, можа толькі радасна застукаць мацней, чытаючы гэтыя сьветлыя радкі нашае эмігранцкае сацыялістычнае моладзі, якая афіцыяльна заве сябе паступоваю.

На 25 старонцы „Перавясла“ знаходзім партрэт бязьсьмертнага ў беларускай памяці Ф. Скарыны над артыкулам У. Жылкі „Да 400-х угодкаў друку на Беларусі“,

Далей вельмі віхрастым, а нават крыху „вучоным“ стылем напісаны артыкул А. Рэнскага „Паступовасьць ці рэакцыйнасьць?“

Для характарыстыкі тэндэнцыяў аўтара можна ўзяць гэткае „цэнтральнае“ месца з гэтага артыкулу:

„Інтэлігент, ня ўмеючы абстрагаваць ад свайго ізоляванага мяшчанскага жыцьця, не зразумеўшы эпохі, не аналізуючы цяперашніх адносін, не заняўшы пэўнага становішча да барацьбы пралетарыяту за новае жыцьцё — вызначаецца якраз бракам паступовасьці, гэты палітычны анальфабэт, паміма хаця-б свайго добрага пачуцьцёвага сэрца і крышталынага індывідуальнага жыцьця“.

Хочацца спомніць вывад вядомага расейскага вучонага праф. Грэдэскула, што **праўдзівы інтэлігент ня можа быць рэакцыянерам**, вывад зроблены прафэсарам яшчэ да вялікае вайны (ў той час, калі ён быў яшчэ праверным „ка-дэтам“), у артыкуле „Что такое интеллигенция?“.

„**Студэнт-беларус ня можа быць рэакцыянерам**, — дадамо тут, — калі ён запраўды інтэлігент“.

Бэлетрыстыка часопісі выражаецца ў даволі слабенькіх эскізах маладых аўтараў, як Г—н („Лес“), Наль („Аркуш паперы“), Г. Д. („Успаміны“), Янка Пыл („Узьлёт на прадвесьні“).

„Спроба экскурсіі ў перадгістарысны пэрыяд гісторыі беларускага народу і краю па даных геаграфічнай номэнклатуры“ І. Дварчаніна адняла відаць нямала часу ў аўтара на перагляд патрэбных для гэтае цяжкаватае працы, крыніцаў.

Адрывак з уступу да крытыкі палітычнае эканоміі К. Маркса пад загал. „Клясычная формуліроўка тэорыі гістарычнага матэрыялізму“, перакладзены А. Рэнскім, займаючы няцоўныя 2 старонкі, зьяўляецца прыгожым куточкам сацыяльнай навукі ў часопісі, які куточак у далейшым хіба што разрасьцецца.

Радзілі-б перакладчыку замест „людзтво“ (чэхізм—рас. „человечество“, польск. „ludzkość“) ужываць старое ўжо беларускае слова „чалавецтва“.

Цэлых 11 старонак „Перавясла“ заняты „Бібліяграфіяй“ Ул. Жылкі і Т. Грыба, расхваліўшых творы двох маладых паэтаў футурыстычнага нахілу—„Беларусь“ Л. Родзевіча і „Уяўленьне“ У. Жылкі.

З хронікі „Перавясла“ бачым, што сярод эмігрантаў-студэнтаў адбываюцца рэфэраты (Грыб, Дварчанін, Цьвяткоў), ёсьць „Літэратурны Гурток“, „Гурток для студыі марксізму“, суполка „Вольная грамада“, (сацыялісты народніцкага толку), гурток „Музыкальна-Драматычны“ ды іншыя групаваньні.

Як прыемна ведаць аб гэтым маладым руху нашага студэнцтва ў гасьціннай Чэхаславакіі, аб руху, што б‘е сьвежаю крыніцай, якая ў будучыне патрапіць арасіць сваімі жыватворчымі сокамі веды родныя гоні Бацькаўшчыны.

І як-жа сумна спомніць аўтару гэтых радкоў тую школьніцкую нялоўкасьць аднаго з нашых тутэйшых „батораўцаў“, які на пытаньне: „Ці ёсьць сярод вас гэткія, што цікавяцца сацыялізмам?“ адказаць нічога ня мог, а хутка, кінуўшы ўнівэрсытэт, перайшоў у нейкую езуіцкую акадэмію.

Шчыра вітаючы „перавяслаўцаў“ і перапрашаючы іх за некатарыя „кампліменты“ гэтага агляду, можам пажадаць ім яшчэ большага гарту й шчасьлівага сягоньня ўперад па шляху іхняй паступовасьці.

**Краўцоў Макар.**

**Ад рэдакцыі**: Зьмяшчаючы вышэйшую заметку К. М., Рэдакцыя апрача таго прымушана зазначыць, што ў часопісі „Перавясла“ адчуваецца пэўны недагляд з тэхнічнага боку, чым, бадай, тлумачыцца маса граматычных і сінтаксічных памылак, стылістычных шурпатасьцяў ды такія кампрамітуючыя рэчы, як ужываньне слова „аўтохонты“, „аўтохонтнасьць“ замест „аўтохтоны“, „аўтохтоннасьць“ і т. п. Апошняя абмылка асабліва брыдка выглядае ў вуснах філёлёга, які хіба настолькі павінен ведаць грэцкую мову, каб мець паняцьце аб паходжаньні гэтага слова.

## Юрыдычныя парады.

**А. Сінкевічу, Шантараўшчына.**

*Запытаньне.* 1) Да якога суду зьвярнуцца, каб атрымаць грошы за рэквізаваныя вайсковай уладай 4 авечкі і быка.

*Адказ.* Трэба падаць іск (powództwo) у Акружны Суд проці той вайсковай улады, якая зрабіла рэквізыцыю, далучыўшы рэквізыцыйны квіток. Трэба прасіць аб валёрызацыі.

*Запытаньне* 2) 1921 г. па загаду н-ка III раёну, Дунілаўскага пав. войскам порплiскай гміны былі забраны рэквізыцыйныя квіты 4 п. уланаў на 88 пудоў аўса, 24 п. жыта, 25 пуд. бульбы, 30 п. сена, 2 пуд. мяса і адзін кажух. Да гэтага ні грошаў ні квітоў нам не зьвярнулі, ня гледзячы на нашы ў гэтым кірунку, стараньні. Копіі квітоў маем. Да каго зьвярнуцца за выплатай грошаў?

*Адказ* 2) Трэба падаць іск (powództwo) у Віленскі Акружны Суд проці 4 п. уланаў, далучыўшы копіі рэквізыцыйных квітоў. Найлепей справу перадаць адвакату.

*Запытаньне* 3). У 1921 годзе мы паслалі Дунілаўскаму Старасьце рэквізыцыйныя квіты 10 п. уланаў на 95 пуд. аўса, 60 пуд. сена і 2 бычкі вагай 6 пудоў з просьбай выплаты грошаў. Да гэтага часу квітоў нам не зьвярнулі. Да каго зьвярнуцца, каб атрымаць грошы?

*Адказ* 3). Трэба пастарацца звароту назад квітоў. Каліб іх не зьвярнулі—падаць скаргу да Дэлегата Ўраду. Калі будуць квіты, падаць у Віленскі Акружны Суд іск (powództwo) проці 10 п. уланаў.

Выдавец Мікалай Груша.

Друкарня Левін і Сын. Вільня. Нямецкая 22.